# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №93 ЛІПЕНЬ 2006

**НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ**

## КАМЕННЫ ЧАС

Як казаў старазапаветны прарок ёсьць час раскідаць каменне і час зьбіраць каменне. Пасьля доўгага і цынічнага мардавання ў засьценках рэжыму - здэцца, мы з першых, хто ўжывае гэты выраз- «засьценкі рэжыму»-былога рэктара БДУ, былога міністра адукацыі, былога кандыдата ў прэзідэнты сп. Аляксандра Казуліна суд прызначыў яму 66 месяцаў простай зоны.66 месяцаў- гэта з запасам, каб не змог шчэ раз паўдзельнічаць у выбарах і сказаць правільныя словы на адрас цяперашняга ўзурпатара.

Прысуд не проста жорсткі. Прысуд люты і бязьлітасны. І тым болей, што абсалютна несправядлівы, цынічны. Лукашэнка страшэнна баіцца ціхага бунту наменклатуры , таму так жорстка і дэманстратыўна карае і руйнуе фізічна тых сьмельчакоў, што адважуюцца пазарыцца на , як ён перакананы, ягонае асабістае мейсца.

Прысуд ўдае на шчэ больш люты, калі ўздумаць, што багата зладзеяў, забойцаў,іншых злачынцаў альбо адкручуюцца штрапам, альбо маюць тэрміны куды меншыя за казулінскі.

Цяпер кажын адважны ведае, колькі каштуе прыстойнасьць і годнасьць - 66 месяцаў нар і няволі.

**СВАБОДУ АЛЯКСАНДРУ КАЗУЛІНУ!**

## ЗАДУХА

Што клімат мяняецца- у гэтым мы пераконуемся ўсё надзейней.Усё чашчэй тэмпературы пад і за трыццаць градусаў трымаюцца цягам тыдняў, сушачы высмактаную «меліярацыяй» глебу і зьнясільваючы людзей і жывёлу.Нават у Англіі тэмпературы сягалі за 30 градусаў, тым болей па ўсёй Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропе.

Праўда, задушнае надвор"е спрыяла высьпяванню ягад і народ, вольны ад калгаснага рабства, кінуўся на заробкі. Цана, даходзячы да 5 з гакам тысяч за кіло таксама спрыяла ажыятажу. Гэта моцна выручыла вяскоўцаў.

Замурзаны лозунг «лес- наша багацце» набыў літаральны сэнс і ззянне. Папраўдзе, лес нас ратуе. **І НЕ ТОЛЬКІ НАС.**

## ХРЭНОВА ПІЛУЮЦЬ.

Прагна жадаючы анічагуткі не прапусьціць з сваіх учэпістых ручак улада пастанавіла, што перапрацоўкай драўніны прыватныя асобы болей займацца не будуць. Гэта будзе прэрагатыва дзяржавы. А калі ведаеш, хто найлепей сьсе з «агульнанароднай уласнасьці», то разумееш, за што выгадны бізьнес вырываюць з прыватнікаў.

Я не маю сімпатыі да хапуг прыватнікаў, але яшчэ менш я маю сімпатыі да калектыўнага разбойніка.

## РАЗНАРАДКА НА ШАРВАРКУ.

(*Шарварка- масавы згон народу на рамонт дарог, будоўлю і пад. Праца, якую папросту адчапнога адбываюць.*)

Па два чалавекі ў дзень ад школы на калгасную шарварку запатрабавалі аднекуль па тэлефоне. Шарварка мусіла быць на збожжавым таку.

Але тэхнічны персанал і настаўнікі ў адпачынках ды і каму трэба гэная прыгонная праца? Хоць бы падумалі, што з прыгоннага работніка- ніякі работнік.Яму напляваць на збожжа і пустазелле.

А з іншага боку бачыце, спадары- чытачы, як сьмярдзючы бальшавізьм прыліп да пазаэканамічных метадаў прымусу да працы. Яны не наймаюць, яны не вярбуюць работнікаў, яны **вялеюць** яму адбыць павіннасьць. Суботнікі ўжэ адрабілі, то зараз новы сезон пачалі.

Надоечы з Грэцыі ў Дуброву прышла паштоўка.

Дачка беспрацоўнага інжынера з Нямеччыны паведамляе сваёй сяброўцы па перапісцы, што цудоўна бавіць час у Эладзе/ Грэцыі.

Люба Секерэш мае працу кухаркі ў дзіцячым садку.

Але ў вольную хвіліну разам з прыгожай дачкою сядзіць у лесе беручы ягады, каб мець грашыну на жыццё і лахманіну.

От вынік камуністычнае шарваркі.

## ДЗЯРЖАЎНАЯ МАНІЯ.

Калі вас перастрэне валасны стршыня сп. Крывалап Анатоль і пачне з вамі гамонку, якая непазьбежна сасьлізьне на размову пра плот, не сьпяшайцеся падазраваць, што з валасным нешта не так.

Так, канешне так! Раней сп. Анатоль жыў спакойна і не дбаў пра платы, а цяпер як устане з рання, то да вячэрняе зары думае пра іх. Проста вісяць уваччу. І, пэўне, не адзін ён. Добры плот -надзейны паказьнік заможнасьці і моцы дзяржавы. Чым мацнейшы плот, тым прыгажэйшы сельсавет і край. Але танны хвойныя платы буцьвеюць шпарка, хіляцца і псуюць выгляд аграмястэчак і бесперс-пектыўных вёсак. Вёска ж без плоту- голая вёска.

От і мусіць начальства ўсіх рангаў дбаць пра прыгожыя платы.Ад галоўнага па дзяржаве да прызначанага на валаснога.

То калі пачнецца размова пра платы, пераводзьце гамонку на вошы і каросту.

У нас у Дуброве німа грамадзкай лазьні, адны сьцены і столь засталіся.

Ветліва азьміце -(«в» мы для аўтэнтычнага маўлення наўмысна апусьцілі)-, ветліва азьміце сп. Зьмітравіча за руку і звадзіце на экскурсію ў лазьню. Ён не вінаваты, што разбамбілі лазьню, але клопаты трэ пачынаць зь людзей, а не з платоў.

Платы пачакаюць да збудавання прамежкавай сьветлай будучыні- агульна-даступнага аграмястэчка.

Кажуць, хутка будуць тутэйшыя выбары.Дык паспрабуйце ўклініцца ў дэпутаты, каб вырашыць лазьне-плотава- вулічнае пытанне.

## НАПУЖАЎ РАСЕЯЙ.

Прыехаў надоечы сюды зь Ленінграду Саша Парашчын

Вядома, бабам было ж цікава, што там да як там. І расказаў ён жанкам сапраўдную жудасную праўду пра Расею і тамтэйшы нялад.

«Жыцця німа ад етага Пуціна», жаліўся ён бабам. «Простым людзям адна нявыкрутка. Грошай ніяк не плацяць. Кругом бандыты з аружжам». І так расьпісаў расейскія дзівосы, што бабы дружна рашылі: на нячыстую мацяру нам тая Расея. Нам і Рыгоравіча даволі.

Так што падмога апазіцыянерам- наша дыяспара ў аполку былой імперыі.

Чашчэй прыяжджайце, хлопцы!

А як разабрацца, то праўда, рана нам у г л а б а л ь н ы пост"індустрыяльны капіталізм. От толькі што пра ета кумекае наш дыктатар?

## ЭКСКУРСІЯ Ў НАЦЫЯНАЛЬНУЮ БІБЛІЯТЭКУ.

Надоечы наш член сп. Б.Залупа наведаў адну паддуброўскую вёску і піў гарбатку з мясцовых травак з адной мясцовай кабетай-навучыцельніцай. І між глыткамі духмянай гарбаты пад лагодны пошум бярозы кабетка распавяла яму як яна й ейныя гейкі-навучыцельніцы былі ў Менску і захацелі пабачыць Нацыянальную бібліятэку.

«Прачыталі му ў газеці, што ў Нацыянальную бібліятэку ладзяць экскурсіі. І закарцела нам пабачыць прэзідэнцкую будоўлю і на тое, як укладзены нашыя грошы. Суботнікі ж адраблялі, афяравалі. Ну, думаем, прыедам дадому, сваім школьнікам раскажам пра цуд і дзіва. Ды не тое было. Сустрэла нас дама і сказала, што трэба чакаць сфармавання экскурсіі, што трэ не болей за 10 чалавек, што трэ плаціць грошы, што сёння ўжо не будзе паказу. Мы сказалі, што прыехалі здалёк- не памагло.Тады мы пачалі зьдзекувацца з дамы. Папыталі, ці можна дзіцяці прайсьці ў прыбіральню і ўсё такое.» «Раз вы не чытачы, то ў прыбіральню нельга».»Словам, нас павярнулі «і пашлі ані ветрам ганімы», працытавала кабета-навучыцельніца расейскага класіка. «Асадзі назад!», пераклаў Базыль на беларускага класіка.

Кабета была поўная абурэння і расчаравання »Усе вушы прабізікалі той бублятэкай. Дак раз народ змушалі выкладаць грошы на тую бублятэку, то хоць пакажыце яе яму. Я раскажу сваім вучням пра сваю экскурсію ў той гмах!», скончыла піць гарбатку кабета.

Падзякаваўшы за гасьціннасьць сп. Б. Залупа абяцаў перадаць пачутае чытачом народнага баявога лістка.

---

## АБВЕСТКА.

*Рэдакцыя народнага баявога лістка «Дуброўскі Настрой» запрашае да супрацы селькораў, рабкораў, юнкораў і лінкораў.*

*Калі вы ўмееце трымаць у рукох самапіску, любіце роднае праўдзівае слова і вам свярбяць рукі-далучайцеся да нашага калектыву.«Дуброўскі Настрой» шырока ведамы вузкаму асяродку тутэйшых аматараў беларускага чытання.*

*Прыходзьце, тэлефануйце, любіце нас, райце сябрам і сабутэльнікам. Рэдакцыя*

## НЕГАДЗЯШЧЫ НАРОД.

У нас як вядзецца? Калі хлопец ці дзеўка неахвочая да вучобы, дык бацька ці маці ці то суцяшае сябе, ці то століцца: «Даяркаю будзе(ш)», такім чынам праектуючы несканчонась і векавечнась цяперашніх сельскагаспадарчых адносін і ладу.Падсьведама падразумяваецца, што ўсёядныя і безразборлівуя калхозы існавацьмуць вечна і гарантавана давацьмуць працу адыходам навучальна-выхаваўчага працэсу, маргіналам школьнай лавы. Падразумяваецца, што малааплатнай некваліфікаванай працы хопіць усім. Мо пакуль і так. Але вось раздаюцца першыя званкі, што сітуацыя сям-там пачынае мяняцца,і не на карысьць люмпенаў-калхозьнікаў. Разумнейшыя з кіраўнікоў-калгасных вілікаў- пакрысе робяць стаўку на дабраякасную працоўную сілу: трохі адукаваную, дысцыплінаваную, ахайную.

Так і пачалі зьяўляцца беспрацоўныя даяркі ды трахтарысты.Сям-там на працу ў калхозы вярбуюць украінцаў ці рознуую ўсходнюю набрыдзь, матывуючы гэта тым, што ў нас «усе п”яніцы».

Сапраўды, п”яніц багата.

За апошнія дзесяць год, як падлічыла сп. Домначка, ў Дуброве ад гарэлкі сканалі мо піісят -а яна мяркуе, што да гэтых трэ дадаць шчэ дзесятак мерцьвякоў, то разам шэісят- мужчын.

Сітуацыя цынічная. З аднаго боку дзяржава шырока налівае бязроднае пойла па таннай цане, спойвае народ.Паліца з алкаголіем ніколі не буваў нішчымнай. З іншага боку да паслуг працоўных розныя ЛПП з крывадушным «лячэннем».

Такім чынам, ворагі нашага народу, спаіўшы наш народ, пазбавіўшы яго права на сваю зямлю, -свой кут-, на сваю мову, сваю культуру цяперака наўпрост ставяць пытанне пра ягонае фізічнае ўстараненне пазбаўляючы яго пакрысе і права на працу.Замест беларусаў на нашай зямлі пануюць нашы ворагі і панавацьмуць чужынцы. Дзіўнавата выходзіць: чалавек, што называе сабе «прэзідэнтам», блудліва называе беларусаў «расейцамі з знакам якасьці». І вось раптам гэтыя «суперславяна-арыйцы» аказваюцца нязгодкамі-валацугамі, ні нашто непрыдатнымі. Разумнейшым з нашага народу трэба пільна пільнаваць нашых ворагаў, каб не стаць народам без зямлі і без Радзімы. Без самаахвярнае палітычнае барацьбы нам не абараніцца ад нечысьці.

От ты, Вася, ганарышся, што не лезеш у палітыку. Правільна, Вася. Такія як ты маргіналы, несамас -тойныя,у палітыку не шыюцца: там не наліваюць па коках, і без незалеж насьці гэтага панства, гэтых чыноўнікаў не было б. Хочацца і рыбку зьесь-ці і на хвост сесьці.

От так: з аднаго боку на незалежнасьць плююць і блююць, з другога напоў-ніцу і ад пуза карыстаюц-ца ейнымі магчымасьцямі.

Ды як ні круці Дзень Не-залежнасьці не залежыць ад недавучак і нацыяналь-ных юдаў.

Наш Дзень Незалежнась-ці- 25 сакавіка.

## УПОПЕРАК ГЛОТКІ.

Дасьведчаным людзям вядома, што Дзень Незалежнасьці да чалавека з Шклова быў 27 ліпеня. Але паколькі ворагі нашага народу ненавідзяць нас і нашу незалежнасьць, то яны пахерылі гэты векапомны дзень, замяніўшы яго на міфічнае трэцяе ліпеня.

І ўсё ж і ім незалежнасьць часам даводзіцца выцягваць з рукава пры патрэбе.

Рэжым існуе ў двухсэнсоўнай сітуацыі: і пра незалежнасьць упамінаць- гэта як сярпом

## САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ, ТАВАРЫШ УГА ЧАВЭС! BIENVENIDO COMPANERO CHAVES!

Нашага дыктатара наведаў Прэзідэнт Венесуэлы тав. Уга Чавэс. Сам ён вайсковец,і як сапраўдны рэвалюсьёнарыё- рэвалюцыянер- нелюбіць амерыканцаў. Нелюбіць амерыканцаў- абавязак ісьціннага народнага падманшчыка- што ў Венесуэле, што ў Беларусі.

Багаценькія венесуэльцы нялюбяць таварыша Чавэса.

Мы не ведаем, чым тав. Уга Чавэс наступіў на хвост беларускім палітыкам, але багата хто пры імені тав. Часэса ўспамінае матку.

Паматляўшы грашовую машною перад носам нашага і нагаварыўшы кучу прыемнай слыху дзяжурнай лухты тав. Чавэс паехаў у Маскву купляць зброю і баявыя самалёты. А з Масквы ён- «за Каран - і ў Тэгеран», дзе таксама кахаюць антыамэрыканскія прыпеўкі.

Прыгожаю каметаю прамільгнуў тав. Чавэс на менскім панурым небасхіле

## У НАС ТАК НЕ ШПОКАЮЦЬ!

Новай бліскучай перамогі над Сарсапарылам дамагліся нашыя слаўныя органы.

Яны шчэ раз прадэманстравалі,што ўмеюць не толькі лавіць вёдрамі пацукоў, але і выкрываюць дыпламатаў краін, што будуюць у сябе гамасексуальнае грамадзтва. От былі выкрылі і вытурылі чэшскага дыпламата за спробу прышчапіць нам уласьцівыя ім і неўласьцівыя нам спосабы сексуальнага жыцця.Зараз выкрыты нейкі латышскі дыпламат,які, быццам бы займаўся неўласьцівым і незарэгістраваным спосабам сексу і пашыраў парнаграфію.

Хоць шчылінка вузкая, але бачаць беларускія вуаёры шырока. Піп-шоў іхняе хобі.

Што ж, каб не мець дыпламатычных скандалаў, не трэба ладзіць дыпламатычных зносін з краінамі, дзе будуюць не рынкавы сацыялізм, а гомасексуалізм. Як ні круці, а гэныя паганыя сукі ўсёроўна будуць прысылаць да нас мужаложных дыпламатаў, каб нарабіць нам ліха: іншых не маюць. Шырэй вочы, вайстрэй вуха, вуаёры ў пагонах!

Як нам стала вядома, шчэ год 15 у Нацыянальным сходзе не будуць прымаць законаў пра непрызнаныя сёння формы сексу.

Але каб грамадзяніну не патрапіць у становішча ворагаў беларускай дзяржавы Нацыянальнаму сходу неадкладна трэба прыняць Беларускую Народную Камасутру, дзе ўсё будзе расьпісана каму як колькі і па чым.

Мы не бачылі, але гнеўна пратэстуем!

## КРЫЖ І МАМОНА.

Маскоўская праваслаўная царква, тая самая, што атрымала ад дзяржавы права бяспошлінна ўвозіць сьпірытусовыя напоі дзеля фінансавання сваёй дзейнасьці, то бок права спойваць народ, зараз ладзіць курсы падрыхтоўкі персаналу для помачы алкашам.

Наўрад ці барадатыя і патлатыя адужаюць зялёнага цмока, бо на ягоным баку дзяржава з самагоннымі і пойлавымі заводамі, шырокая сетка алкагольнага «прамоўшыну»- распаўсюду ды традыцыя спажывання алкаголю кругласуткава. Далей, бабкі-самаварніцы...

Але намеры праваслаўных братоў хвалім, гут, гут. Хай пабораюцца... Не яны першыя.

## НАСТОЛЬНАЯ ІДЭАЛОГІЯ.

Як пячонка выдзяляе жоўць, гэтак Адміністрацыя прэзідэнта выдзяляе порцыі тлумачэнняў «дзяржаўнай» ідэалогіі. От і напрыканцы ліпеня «Советская Б.» патлумачыла добранамеранаму дваранству кіроўныя думкі начальства. У ролі Казьмы Пруткова (чытай «Проект о введеніі едіномысьлія в Расіі» )значыцца нейкі акадэмік Анатолій Рубінов. Прачытаўшы ягоны опус міжволі пытаеш: Калі гэта пісаў акадэмік, то чым у нас займаюцца дворнікі? Аказваецца, СССР распаўся таму, што догма была не тая. Што Беларусі раней- раней за што?- не было, што ні Аўстрыя ні Швецыя нам не прыклад, што гэта мы ўсім прыклад так бы мовіць сьвятляк у задніцы негра.

Аказваецца- самая галоўная дэмакратыя- выбарнасьць Галавы дзяржавы і Парламенту. (Ну, якая выбарнасьць, такая й галава з парламентам.)

З крэмзання гэтага Адміністрацыйнага акадэміка вынікае, што дзяржава ва ўпор не будзе заўважаць нас, беларусаў. Далей, акадэмік перасьцерагае тэлебачанне ад прапаганды «бацыл нянавісьці і вострых супярэчанняў». Але як пабачыць, то беларускае тэлебачанне толькі тым і займаецца, што прапагандуе нянавісьць да суседзяў і да нязгодных з дыктатарам.

Самае натуральнае месца, для пісанняў «экалагічнага аператара»- так цяпер сям-там называюць дворнікаў- з прэзідэнцкае Адміністрацыі- гэта сральня.

## КАМУНІСТЫ ЎСЁЙ БЕЛАРУСІ- У КУЧУ!

На ўсесаюзным зьлёце сваіх аматараў узурпатар пажаліўся, што без камуністаў цяжка кіраваць. Прычым тут камунякі?Хіба нам патрэбна яшчэ адна паралель улады з чыноўнікамі? Уладаю Лука ні з кім дзяліцца не будзе, а лішнія халуі не зашкодзяць.І вось згукалі яны «аб"яднаўчы зьезд» камунякаў, пасваталіся. Гэныя «камунякі» адразу ж заявілі, што яны будуць лізаць Луку чобаты, то бок ад камуністаў у іх будзе хіба што крайняя плоць.От якія ў нас будуць «камунякі». Камунякі, рыхтуйце языкі: чобаты прынесьлі!

ПАЙШОЎ АД НАС

**БУСЕЛ ІВАН КЛІМАЎ**

Ён быў добрым настаўнікам і чалавекам.

Смуткуем разам з жонкаю і дзецьмі.

Хай яму зямля будзе пухам.

Друкарня імя І.Масьціцкага
100 ас.